РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА



Фота Ул. Скрабатуна

Жыве Беларусь!

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Free Hlybokaye

Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць! Янка Купала

Выдаецца са снежня 1994 года.
№24 (56), лістапад, 2000 года.
Кошт па дамове

## В. Старавойтаў пазбавіўся дачы ў Крыме

**Вярхоўны суд Украіны адхіліў скаргу былога старшыні калгаса «Рассвет», двойчы Героя Сацыялістычнай Працы Васіля Старавойтава, які прасіў не выконваць рашэнне беларускага суда аб канфіскацыі яго дачы ў Крыме.**

Такое рашэнне судовых інстанцый Украіны азначае, што дача хутка будзе прададзена: 75% грошай будуць пераведзены на рахунак калгаса «Рассвет», 20% пойдзе ў прыбытак дзяржавы, астатня сродкі застануцца на Украіне. Раней рашэннем суда ў Старавойтава былі канфіскаваны аўтамабіль, грошы, акцыі ААТ «Рассвет», мэбля, бібліятэка, радыё і тэлеапаратура.

*«М.В»*

ЗДАРЭННЕ

## Перакуліліся цыстэрны

**Вечарам 11 кастрычніка на 608-ым кіламетры чыгункі «Віцебск--Полацк» адбылася аварыя.**

У раёне станцыі Гараны Полацкага раёна пры тармажэнні грузавога састава, які ішоў з Украіны ў Латвію, сышлі з рэек і перакуліліся тры цыстэрны з дызпалівам. У выніку вылілася 120 тон паліва, пашкоджана каля 70 метраў чыгуначнага палатна. На плошчы 700 квадратных метраў узнік пажар, які быў ліквідаваны намаганнямі супрацоўнікаў пажарнага цягніка і васьмі пажарных разлікаў МНС за дзве гадзіны. Рух цягнікоў па гэтай прычыне быў спынены на 12 гадзін.

*С.К.*

## «Венецыя» ля Полацкага вакзала

5 кастрычніка ў Полацку адкрыўся рэстаран «Венецыя», які размешчаны ў былым будынку сталовай «Мона». Рэстаран уключае ў сябе агульную залу на сто пасадачных месцаў, банкетную залу і кабінет «Люкс» з більярдам. У «Венецыі» будзе італьянская кухня, але тут па жаданню могуць згатаваць і дранікі, і плоў.

## Дзіцячая злачыннасць расце

**Амаль тысяча злачынстваў на ліку непаўнагадовых жыхароў вобласці за 9 месяцаў бягучага года.**

Падлеткі здзейснілі 9 забойстваў, 85 нападаў, зафіксавана 14 выпадкаў насілля, 590 крадзяжоў, 85 разбояў. Сярод непаўнагадовых ёсць угоншчыкі, вымагальнікі і хуліганы. Усяго ж па Віцебскай вобласці здзейснена 8596 злачынстваў.

*Н. Партоліна*

## Думка Парламенцкай «тройкі»

Парламенцкая «тройка», якая прадстаўляе парламенцкія асамблеі АБСЕ, Савета Еўропы і Еўрапарламента, прыняла да ведама вывады Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) аб неадпаведнасці выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ міжнародным стандартам. БДІПЧ адмовілася накіраваць сваіх назіральнікаў на ўчасткі ў дзень выбараў 15 кастрычніка.

*У. Глод, БелаПАН*

## Праблемы беларускіх сямей

З 94-рох тысяч жанчын, якія родзяць у Беларусі ў год, 15-30 тысяч паміраюць.

У краіне 2,5 млн. жанчын рэпрадуктыўнага ўзросту, а штогод нараджаюць толькі 100 тысяч.

Штогод у Беларусі робіцца 130 тысяч абортаў. Кожная чацвёртая сям'я хоча мець дзяцей, але не можа па прычыне бясплоддзя. У два разы ўзрасла дзіцячая інваліднасць (20 тысяч дзяцей інвалідаў). Праз 20-25 год у краіне практычна не будзе здаровых дзяцей.

*Я. Замуруева*

## Моладзь без справы

У канцы лета Глыбоцкі раённы цэнтр занятасці папоўніўся 32-мя хлопцамі і дзяўчынамі, якія не паступілі пасля школы і не змаглі самастойна працаўладкавацца. 18 з іх паслалі на курсы, астатнія ў ліку 296 беспрацоўных выязджаюць на палявыя работы ў калгасы.

Хоць у параўнанні з мінулым годам узровень беспрацоўя ў раёне застаўся ранейшым, насцярожвае тое, што застаюцца без працы людзі ва ўзросце да 35 год, у аноўным маладыя жанчыны.

*У. Шык*

*Усяго патроху*

Зараз у Беларусі ў турмах знаходзіцца 57 тысяч чалавек. Больш паловы асуджаных -- людзі ва ўзросце да 30 год. Па прыгавору суда пажыццёва асуджаны 50 чалавек. Раней яны адбывалі тэрмін у Глыбоцкай калоніі, зараз створаны і працуе рэжымны корпус у Жодзіна.

Прэзідэнту Ірака Саддаму Хусейну ўручылі каран напісаны яго крывёю.

Моніка Лівінскі, былая стажорка Белага дома, якая стала сусветна вядомай дзякуючы сувязі з прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам, будзе весці з лістапада гэтага года тэлеперадачу на 5-ым канале брытанскага тэлебачання.

Па стану на 29 верасня чыстыя замежныя актывы Нацыянальнага банка і ўрада Беларусі складалі 107 мільёнаў долараў ЗША.

Урад Швейцарыі не супраць легалізацыі лёгкіх наркотыкаў.

Чатыры спартсмены з алімпійскай зборнай Грузіі не вярнуліся на радзіму пасля заканчэння Алімпіяды.

Да пачатку Алімпіяды ўрад Літвы аб'явіў, што чэмпіён Алімпіяды атрымае 100 тысяч долараў, а бронзавы медаліст - 50. У рэспубліцы не разлічвалі, што спартсмены заваююць шмат медалёў. На сёння ўрад не можа выплаціць абяцаныя сродкі: грошай на ўсіх не хапае.

У ЗША на свет з'явілася дзіця, якое вырошчана штучным шляхам у колбе.

У сталіцы Балгарыі вельмі хутка разрастаецца эпідэмія педыкулёза сярод школьнікаў. Па паведамленню з міністэрства адукацыі, дзеці, каб не хадзіць у школу, перапрадаюць вошы адзін аднаму.

За 2000 год па Віцебскай вобласці адбылося 1368 пажараў, ахвярамі агню сталі 163 чалавекі, з іх 19 дзяцей.

## Перазахаваны рэшткі нямецкіх салдат

Глыбокае -- першы і пакуль адзіны горад на Беларусі, у якім рэалізавана беларуска-германская дамова аб увекавечанні памяці загінуўшых ахвяр другой Сусветнай вайны.

Рэшткі 528 нямецкіх салдат, імёны і прозвішчы якіх устаноўлены, перазахаваны ў спецыяльна адведзеным месцы на новых могілках райцэнтра. 1 кастрычніка тут адбылася ўрачыста-жалобная цырымонія асвячэння воінскага пантэона, на якой прысутнічаў пасол Германіі ў Беларусі Хорст Вінкельман, супрацоўнікі пасольства, прадстаўнікі мясцовых улад і духавенства. На жалобным мітынгу выступіў кіраўнік раёна М.М.Кандзерскі, памінальную месу адслужыў ксёндз Кшыштаф. Рэквіем па загінуўшых выканаў камерны хор ГДК. Нямецкія госці ўсклалі вянкі і кветкі на месцы захавання савецкіх воінаў, расстраляных італьянскіх ваеннапалонных і ахвяр Халакоста.

*У. Шык*

## ДЭНДРАЛАГІЧНЫ САД


Фота Ул. Скрабатуна

Глыбоцкі дэндралагічны сад трапіў у шэраг шасці аб'ектаў (касцёл Св. Ганны ў Мосары, Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей, Дом раместваў, касцёл Св. Тройцы і Кафедральны сабор у Глыбокім) Глыбоцкага раёна, якія найбольш наведваюць турысты.

Можна толькі ганарыцца, што такі ўнікальны і рукатворны помнік прыроды знаходзіцца амаль у гарадскіх межах.

Шкада, толькі што ён прыдатны толькі для летняга наведвання.

Здаецца, што чагосьці тут не хапае. Напрыклад, у лясным масіве, які прымыкае да дэндрасада, можна было б зрабіць вальеры для дзікіх жывёл: аленяў, казуль, ласёў і дзікоў.

А каб завабіць турыстаў ўзімку, можна было б пабудаваць аранжырэю, дзе б раслі пальмы, бананы і іншыя заморскія дрэвы.

*У.С.*

# Маленькі «Курск» у беларускіх сем`ях

Калі чалавек есць, значыць, ён галодны, калі жэніцца, значыць, кахае, калі ідзе ў царкву, значыць, цяжка на душы, а калі чалавек зводзіць рахункі з жыццём, значыць, яму ўжо млосна ад яго, значыць, ні ежа, ні сям`я, ні вера яго не ўратуюць. Чаму так адбываецца мала каго цікавіць, большасць спісвае на ўласныя праблемы чалавека і ўсё ж прычына не ў іх, бо ад уласных, асабістых праблем рукі накладваць на сябе не будзеш, а ад праблем, якія стварае нам дзяржава, іншы раз галава кругам ідзе. Да таго ж, чыста асабістых праблем у нас няшмат. Гэта я люблю есці, а гэта не. Гэты фасон падабаецца, а гэты не. Гэта мае асабістыя праблемы. А калі ў мяне месячныя, а пракладкі з крыльцамі купіць няма за што, то ўжо гэтая праблема не мая ўласная. Напрошваецца пытанне: а чаму я, чалавек з двумя вышэйшымі адукацыямі, які працуе па 12-15 гадзін у суткі не магу зарабіць сабе на пракладкі? Гэта што датычыць размежавання праблем чыста сваіх і чыста «мадэ ін дзяржава». Але вернемся да ўзнятай у пачатку праблемы. Чытаючы газеты, я часта бачу артыкулы пра самазабойствы. Накладаюць на сябе рукі людзі і старыя, нямоглыя, і маладыя, і зусім падлеткі, і людзі ў росквіце сіл. За 1999 год па рэспубліцы зарэгістравана 245 спроб дзяцей скончыць жыццё самагубствам. Пачынаючы са студзеня 2000 года, за месяц толькі па Віцебскай вобласці зарэгістравана 38 выпадкаў самазабойстваў?! А колькі іх па рэспубліцы!?

**2 лютага** 2000 года ў Кобрыне вучань абматаў сябе электрапровадам і падключыў яго да сеткі пераменнага току. Яго труп маці і сястра знайшлі вечарам.

**11 сакавіка** 2000 года ў пад`ездзе 9-павярховага дома ў канцы вуліцы Гагарына ў Віцебску 47-гадовая настаўніца СШ №30 выпіла воцатную эсенцыю і ўскрыла сабе вены.

**31 сакавіка** 60-гадовая жыхарка Жыткавіцкага раёна выскачыла з акна трэцяга паверха Гомельскай абласной бальніцы. Памерла.

**Незадоўга да гэтага** такім жа шляхам пайшла з жыцця 75-гадовая пацыентка Жлобінскай бальніцы.

**Перад Вялікаднем** на пероне мінскай станцыі метро «Партызанская» 68-гадовая сяльчанка з Уздзенскага раёна кінулася пад цягнік. Ёй адрэзала правую нагу. Урачы 6-ай клінічнай бальніцы амаль суткі змагаліся за жыццё бабулі, але выратаваць не змаглі. Ды і ці хацела гэтага жанчына?

**Вечарам 2 мая** на гарышчы летняй кухні сваёй хаты ў вёсцы Быстрына забітым быў знойдзены старшыня калгаса імя Суворава Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці Аляксандр Грышко. У руцэ забітага быў самаробны пісталет, з якога мужчына выстраліў сабе ў грудзі. 39-гадовы старшыня быў на добрым ліку ў вышэйстаячага кіраўніцтва, на працягу апошніх год узначальваў гаспадарку.

**У 70-80-ыя гады** ў Беларусі быў зарэгістраваны 1 выпадак дзіцячага суіцыду ў год, а пачынаючы з 90-ых гадоў іх ужо 10, 5-6 выпадкаў звязаны са школай.

На працягу трох тыдняў беларусы і расіяне сачылі за падзеямі на Баранцавым моры, перажывалі і плакалі па загінуўшых мараках разам з іх роднымі і блізкімі. Сапраўды, здарылася гора. Але ці ж меншае гора ў маці, сын якой забіў сябе токам, ці жонкі, муж якой застрэліўся без вайны, пад націскам нейкіх абставін і праблем, дапамагчы вырашыць якія ніхто не спяшаецца?

Спачуваючы іншым, мы не павінны забывацца на гора сваіх мацярок, бабуль, дачок, сыноў, у сем`ях якіх здараюцца штодзённыя маленькія «курскі». І дзяржава, і кожны з нас павінны не проста задумвацца чаму так адбываецца, але і шукаць вінаватых, караць, рабіць усё, каб без вайны і эпідэміі не гінулі людзі.

*Т. Шэрая*



Глыбоччына па тэрыторыі займае плошчу большую чым некаторыя краіны Еўропы, напрыклад, Андора, Сан-Марына, Ліхтэнштэйн, Манака, Люксембург ... Не дзіва, што ў райцэнтры мала хто ведае, што робіцца на адлеглацсі чатырох-пяці дзесяткаў кіламетраў ад Глыбокага.

На маляўнічай рацэ Авута каля Чарневіч узведзена дамба. Хутка даліна будзе затоплена і тут утворыцца доўгае штучнае возера ў атачэнні стромых пагоркаў. *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Хлопец адпілаваў сабе руку

**Выпіўшы, малады чалавек узяў электрапілу і па неасцярожнасці сам сабе адпілаваў кісць левай рукі. Здарэнне адбылося з 32-гадовым жыхаром Вялікага Сяла, што ў Шаркоўшчынскім раёне.**

1 верасня, калі старшыня калгаса быў у райцэнтры, брыгада сталяроў рашыла падзарабіць. За віно пачалі пілаваць дровы прыватнікам. 22-гадовы К. спатыкнуўся працуючы і фактычна «прылёг» на пілу. Нічога дзіўнага ў тым не было, калі ведаць колькі ён выпіў.

Старшыня, даведаўшыся пра здарэнне, склікаў праўленне. Звязаліся з Мінскам, даведаліся, што аперацыя каштуе 2 тысячы долараў. Вырашылі ратаваць: хоць і п'е чалавек без меры, але ж малады, шкада.

У Шаркоўшчыне пацярпеламу зрабілі пераліванне крыві, а ў аддзяленні мікрахірургіі ў Мінску за сем гадзін зрабілі складаную аперацыю. Праз дзве гадзіны пасля яе ў кісці ўзнавіўся кровазварот.

Калі хлопца выпісвалі, то папярэдзілі: «Пакуль рука поўнасцю не прыжывецца-не пі».

10 кастрычніка яму зрабілі рэнтген і ўбачылі, што косці не зрастаюцца. Прычына-вялікае «сяброўства» з бутэлькай. А калгас яшчэ за аперацыю не разлічыўся.

*В. Кручанкова*

### Афіцыйна

Камітэт дзяржаўнага кантролю Віцебскай вобласці нагадвае, што ў вобласці працягвае працаваць камісія па кантролю за своечасовасцю выплаты заработнай платы. Узначальвае камісію старшыня Камітэта дзяржкантролю Рэдненка Сяргей Валянцінавіч.

**По фактах затрымкі зарплаты звяртацца па тэлефонах: у Віцебску 36-26-51(прыёмная); 36-44-95; у Полацку-- 6-06-22; у Глыбокім-- 2-43-57**

### Без каментарыяў

## Ствараецца галоўнае дзяржаўнае ідэалагічнае ўпраўленне

Праект загада, які будзе падпісаны ў бліжэйшы час кіраўніком дзяржавы, мае на мэце стварэнне ў Адміністрацыі прэзідэнта галоўнага дзяржаўнага ідэалагічнага ўпраўлення, кансультатыўнага савета па ідэалагічнай інфармацыйнай палітыцы, які будзе ўзначальваць кіраўнік дзяржавы. Будзе таксама сфарміравана «ідэалагічная вертыкаль»: у кожным міністэрстве, ведамстве, на прадпрыемствах плануецца стварыць адпаведныя службы.

Плануецца, што гэту работу ўзначаляць намеснікі старшынь абл-,гар- і райвыканкамаў, кіраўнікі прадпрыемстваў.

*«Віцебскі кур'ер*



**«Эксперыменты» на Глыбоччыне**

У рэдакцыю «Вольнага Глыбокага» паступаюць паведамленні настаўнікаў гарадскіх школ аб тым, што заканчваецца першая чвэрць, а ў школах няма класных журналаў. Невядома хто з кім разлічыцца (ці не), зрабіў заказ (ці не), але відавочна парушэнне правоў таго ж настаўніка, які ставіць адзнакі на розных лістках. Калі з'явяцца журналы-- невядома, а колькі часу адыме ў

# Рэгіянальны экспрэс

## Кошт спешкі -- жыццё

**29 верасня ў райбальніцы ад атрыманых траўм памёр 21-гадовы хлопец -- жыхар пасёлка Варапаева Пастаўскага раёна.**

26 верасня ён спяшаўся на веласіпедзе па сваіх справах і павінен быў праехаць цэнтральную вуліцу. Прапусціў дзве аўтамашыны, аб`ехаў трактар і трапіў пад «Фольксваген-гольф». За рулём машыны быў равеснік і зямляк загінуўшага хлопца.

З пачатку года ў Пастаўскім раёне зафіксавана 21 дарожна-транспартнае здарэнне. Выяўлена 400 вадзіцеляў, якія ўпраўлялі тэхнікай у нецвярозым стане.

## Спадзяюцца на міласць Божую

Яшчэ нядаўняе савецкае мінулае Мёр упрыгожвалі кідкія лозунгі з камуністычнымі заклікамі. Сёння сітуацыя іншая. Людзі паўсюдна ўзносяць не помнікі ідалам, а знакі пашаны Ўсявышняму. На вуліцы Полацкай у Мёрах у год 2000-годдзя хрысціянства пастаўлены чатырохметровы крыж. З нагоды яго асвяшчэння адбыўся крэсны ход. Веруючыя прасілі ў Бога міласці і заступніцтва.

*У. Шык*

## Свята на вясковай вуліцы

Так і не прыжылася назва вуліцы Савецкая ў сяле Йоды Шаркоўшчынскага раёна. Забудаваная ў пачатку 60-ых, яна для мясцовых жыхароў так і засталася Бальнічнай-- да вайны тут размяшчалася прыватная аптэка, жыў доктар.

У адну з нядзель вёска святкавала. Удзельнікі свята «Вёска мая, я -- часцінка твая» спявалі, удзельнічалі ў конкурсах і прымалі віншаванні. Святы вёсак сталі традыцыйнымі.

*У. Шык*

## З рыбалкі не вярнуўся

Тры дні шукалі вадалазы цела 53-гадовага начальніка аўтакалоны адной з воінскіх часцей, жыхара Наваполацка Аляксандра Д. 12 кастрычніка ён з сябрам паехаў рыбачыць на Заходнюю Дзвіну. У раёне вёскі Фальварк лодка перакулілася. Аляксандру Д выплыць не ўдалося.

А ў возеры Цвеціна Ушацкага раёна нядаўна быў знойдзены труп мужчыны, які ўжо нейкі час лічыўся прапаўшым. Тут ужо гісторыя крымінальная: да трупа была прывязана барана і 40-кілаграмовы камень.

*Н.П*

## Глыбоцкія рыбакі абураюцца

**Жыхары Глыбокага, а дакладней заходняй яго часткі, Беразвечча, вельмі незадаволены дзейнясцю супрацоўнікаў «рыбаховы», якую ўзначальвае І. Амельяненка.**

Па словах А. Мурзіча, С. Жамчужнікава, В.Гольдэнбайна і усіх тых, хто ў вольны час любіць адпачыць на беразе возера з вудай у руках, інспектары «Рыбаховы» амаль кожны тыдзень, звычайна ў чацвер і пятніцу, «палошчуць» возера Падлазнае, якое знаходзіцца ў межах горада. А рыбакам-аматарам у выніку падобнага актыўна-арганізаванага лову ўжо няма ніякай надзеі на паклёўку -- рыба, якая не трапіла ў сеткі «Рыбаховы», напужаная ідзе на глыбіню і затойваецца. Хацелася б даведацца ці законныя дзеянні «Рыбаховы» і няўжо яе супрацоўнікі не могуць лавіць рыбу дзе-небудзь за горадам, дзе няма ніводнага рыбака-аматара?

*А. Сяргеенкаў*

## Настаўнікі без класных журналаў

настаўнікаў іх запаўненне адразу за два-тры месяцы? У школах горада працуюць дзесяткі настаўнікаў, за кожным журналам іх па пяць-дзесяць чалавек -- чарга жывая будзе на запаўненне. А калі дапусціць, што і ў асяродку настаўнікаў ёсць людзі недобрасумленныя, то гэта ж якая магчымасць наставіць адзнак якіх трэба і каму трэба. На апошні момант звярнулі ўвагу пры размове з карэспандэнтам бацькі выпускнікоў, якіх хвалюе кожня адзнака дзяцей. Падобна, што эксперымент па дыферэнцыяцыі навучання на Глыбоччыне дапоўніўся яшчэ адным «эксперыментам» -- працай без афіцыйнага дакумента, якім з'яўляецца журнал. «Настаўнікі Глыбоччыны,-- як сказаў адзін педагог,-- не дадумаліся перад выбарамі звярнуцца да кандыдата ў дэпутаты В. Храла. Ён усім столькі абяцаў, можа б і нас пашкадаваў хоць словам абнадзейваючым?»

*М. Пяскоў, Глыбокае*




Гэта пара лебедзяў з'явілася на возеры Карцэя, што на Шаркоўшчыне, ранняй вясной. На возеры яшчэ быў лёд і толькі з берагоў падмывала яго веснавая вада. Днём лебедзі плавалі каля берагоў, адлятаючы кудысьці нанач. Раніцай прыляталі зноў, нібыта правяраючы ці стаяў лёд. Калі ж возера ўскрылася, лебедзі засталіся. Увесь красавік самец правёў у бойках з іншымі лебедзямі, бо не толькі гэтая лебядзіная сям'я ўпадабала наша возера. Калі лебедзь-сапернік апускаўся на ваду, гэты лебедзь ганяў яго да тае пары, пакуль той не адлятаў з возера. Не баяўся ён уступіць у няроўны «бой» і з парай-тройкай птушак. І «чужакі» нарэшце прызналі «тэрытарыяльную цэласнасць» возера гэтага настойлівага «Імператара». Менавіта так я назвала птушку. «Імператар» быў акальцаваны ў Польшчы ў 1998 годзе (гэты надпіс я прачытала на яго «пярсцёнку»). Браў з рук хлеб, але асабліва любіў дробную рыбу. Убачыўшы пачастунак, падплываў, выходзіў на бераг, ганарліва нёс галаву і смешна шыпеў, як бы папярэджваючы: «Не чапай, я дужы, ушчыпну»! А самка дзічылася, ежу з рук не брала, але лоўка лавіла на ляту. У канцы красавіка лебедзі пачалі будаваць гняздо на дальнім ад вёскі беразе. «Будматэрыялы» дастаўляў самец, а самачка ўкладвала іх, умацоўвала ў адным толькі ёй вядомым парадку. Іншы раз лебедзь браўся ёй дапамагаць, але калі самачцы штосьці не падабалася, яна шыпела і дзёўбала яго і тут жа перакладвала галінку так, як лічыла неабходным. Лебедзь цярпліва зносіў усе «капрызы» сваёй сяброўкі. Вельмі хутка ўтульнае гняздзечка было збудавана.

А потым яны ўдваіх пачалі чакаць патомства. У гэты час лебедзь не адплываў далёка ад гнязда. Харчаваўся непадалёку і зганяў сяброўку з гнязда (гэта выглядае, як сямейная сварка), адпраўляючы яе паесці. Яна вельмі неахвотна злятала з гнязда, таму, каб яе не трывожыць, ён раз-пораз прыносіў ёй есці. За гэты час лебедзь разагнаў усіх качак, якія спрабавалі пасяліцца побач з гняздом, разбурыўшы пры гэтым іх гнёзды. Не любіў «калгасаў», «камунальных кватэр», быў ярым уласнікам. Яго тэрыторыя -- і ўсё тут! Качкам прыйшлося гняздзіцца воддаль ад ганарлівага суседа.

Нейк раз я хацела падплысці да гнязда на лодцы, але лебедзь перагарадзіў мне дарогу. У гэты момант ён быў падобны на ўзбітую падушку. Усім сваім выглядам паказваў мне, што будзе абараняць свой дом і сяброўку чаго б гэта яму не каштавала. Здавалася нават, што ён гатовы пайсці на таран. Наша «знаёмства» было ў гэты час забыта. У літаратуры апісаны выпадак, калі лебедзь, абараняючы гняздо, пераламаў вясло, таму я не стала рызыкаваць. Ды і навошта? Няхай сабе жывуць спакойна.

У пачатку чэрвеня я ўбачыла багатае «імператарскае» сямейства. Яны плылі адзін за другім. Наперадзе -- прыгажуня-маці, следам -- шэсць лебедзянят, а ззаду -- бацька. Яго проста «распірала ад гонару» хоць дзеткі ў параўнанні з бацькамі былі маленькімі «брыдкімі качанятамі», кволымі і няўклюднымі. Цікава, што тата-лебедзь зноў «успомніў», што мы сябры і стаў браць ежу з рук. Маці з патомствам трымалася на значнай адлегласці.

У канцы чэрвеня я пайшла ў паземкі на другі бок возера. Там ёсць пусты хутар. Была спякота, і я вырашыла паставіць бутэльку з вадой у баню каля хутара. Адчыніла дзверы і ... ўбачыла забітага лебедзя. Мяса валялася на падлозе, а шкурка з пер'ем была прафесійна, з веданнем справы, знята для вырабу чучала. На ножцы лебедзя быў след ад кальца. Я не ведаю, хто такое зрабіў, але гэты чалавек не баіцца ні закона, ні людзей, ні Бога. Як паднялася рука на такую прыгажосць? Як можна было знішчыць таго, хто верыў людзям і браў ежу з рукі? Лебедзь -- сімвал чысціні, прыгажосці, кахання і вернасці. Колькі легенд, вершаў і песень прысвечана гэтай дзівоснай птушцы! Найбольш таленавітыя творы пісьменнікаў, мастакоў і дойлідаў, найбольш яркія подзвігі і здзяйсненні людзі называюць лебядзінай песняй. А ў нас знайшоўся «браканьер у законе», які груба абарваў толькі пачатую лебядзіную песню...

Не бачу я і самачкі з лебедзянятамі. Магчыма, з яе таксама зрабілі чучала, а малыя загінулі без бацькоў. Што ж вы робіце, людзі?!

*Сафія Табола, ліпень 2000 г.*




*Усемагутны Божа,*
*Дай мне міг,*
*А дзеткам маім --вечнасць!*

*Л. Нейдах, «Чорнае святло», 1998 год*

Вандруючы сёлета па Глыбоччыне, заехаў у вёску Пліса і выпадкова трапіў у адну хату. Тое, што ўбачыў, уразіла мяне, бацьку, да глыбіні душы. Першае ўражанне, што трапіў у хату канца 18 -- пачатку 19 стагоддзя, бо лічыў, што пасля рэформы 1861 года сяляне жылі лепш, чым прыйшлося пабачыць зараз. Па хаце бегала чацвёра паўраспранутых, нячэсаных і мурзатых дзяцей ва ўзросце ад двух да пяці год. Адна дзяўчынка тузала бацьку за рукаво і прасіла есці. Мужчына дастаў бохан хлеба і адламаў кавалак. Узрадаваная дзяўчынка пабегла за занавеску. Там усчаўся гвалт, енк, піск. Аказалася, хлеб у дзіцяці адабралі не менш галодныя брацікі і сястрычкі. Як дзялілі тую скібку, невядома, але ўпэўнены, што не наеўся ніхто. А мне падумалася: «Навошта гэтым дзеткам галодная вечнасць? Няхай будзе міг, але сыты і абласканы блізкімі людзьмі».

На жаль, рэчаіснасць не песціць ні дарослых, ні дзяцей. І калі першыя так-сяк спрабуюць заваяваць сабе месца пад сонцам, дзеці нярэдка задавальняюцца і адным маленькім праменчыкам.

Святлом у акне стала для пакрыўджаных лёсам дзетак Глыбоччыны адкрыццё 1 студзеня гэтага года сацыяльнага прытулку для непаўналетніх, які распачаў работу на базе Станульскага дзіцячага садка і роўна праз месяц прыняў першых сваіх пасяленцаў. Пакуль што ў прытулку знаходзіцца 25 дзяцей, падзеленых на дзве групы-- хлопчыкі і дзяўчынкі, узрост іх ад трох да шаснаццаці год. Большасць дзяцей-- вучні 6-7 класа, да таго ж-- хлопчыкі. Трапляюць сюды дзеці з недобранадзейных або няпоўных сямей, у якіх бацькі п'юць, нідзе не працуюць, не клапоцяцца пра дачок і сыноў, не выхоўваюць іх. Многія дзеці, якія трапілі сюды, адчуўшы ласку выхавацеляў і займеўшы добрыя ўмовы жыцця, пасля заканчэння тэрміну не хочуць вяртацца ў сцюдзёныя хаты, у галоднае жыццё, у адзіноту і знявагу. Заўважце, заявы аб прыняцці ў прытулак пішуць нават самі дзеці і просяць іх прыняць.

Сацыяльны прытулак -- гэта, можна сказаць, эксперыментальны праект, які павінен вытрымаць выпрабаванне часам і зарэкамендаваць сябе. Да таго ж, стварэнне яго вырашае не толькі праблему дзяцей, але і бацькоў, якія маюць час, шэсць месяцаў, каб узяцца за розум, перагледзіць свае адносіны да дзяцей і жыць па-людску не пазбаўляючы іх шчасця мець сям'ю, а не казённы дом. У нейкай меры вырашаецца і праблема дзяржаўная. Дзіцячыя інтэрнаты перапоўнены, іншы раз дзеці чакаюць чаргі па паўгода і больш, мучаюцца, галадаюць. Сацыяльны прытулак здымае гэтую напружанасць і прымае дзетак у сябе. З аднаго боку прытулак -- выхад са становішча, своеасаблівае выратаванне, а з другога -- не зусім прэмная прыкмета нашага жыцця...

Што ж я пабачыў у прытулку?

Жыццё тут адпавядае рэжыму дня, які распрацаваны педагогамі. Дзеці школьнага ўзросту вучацца ў Станульскай базавай школе, вечарам робяць урокі. З малодшымі, як у садку, займаюцца выхавацелі. Чатырохразовае харчаванне. Для школьнікаў аднаразовае і ў школе. Усё па распісанню. У канцы кожнага месяца тут адзначаюць дні нараджэння, для выхаванцаў ладзяцца салодкія сталы, вечары, гульні.

Узначальвае гэтую ўстанову Валянціна Чаславаўна Закрэўская, а ўсяго ў калектыве працуе дзевяць чалавек. Праца педагогаў складаная і звязана не толькі з функцыяй наглядальніка. Педагогі дапамагаюць дзеткам прайсці курс сацыяльнай адаптацыі, карэктыруюць іх паводзіны, працуюць з бацькамі. Ведаць псіхалогію тут павінен не толькі прафесіянал-псіхолаг, але нават тэхработнік. Трэба сказаць, што тыя, хто працуюць ў прытулку, адчуваюць адказнасць і са шкадаваннем, разуменнем адносяцца да дзяцей, стараюцца выхаваць у іх патрэбу ўтульнага дома, разумнай сям'і.

Што атрымоўваецца, што не -- лепей ведаюць самі педагогі. Але тое, што цывілізавана і цікава наладзіць досуг дзяцей такіх розных узростаў цяжка, маючы пад рукамі цэлага нічога, зразумела. Не хапае цацак, кніг, не гаворачы ўжо пра магнітафоны, камп'ютэры, відэа.

Калектыў прытулку выказвае ўдзячнасць жыхарам раёна за аказаную гуманітарную дапамогу, настаўнікам Станульскай школы, Глыбоцкай царкве хрысціян евангелістаў, саўгасу «Азярцы» райаграпрамснабу, ПЭСу, лясгасу, РАА.

Супрацоўнікі прытулку і дзеткі спадзяюцца, што пра іх не забудуць, што знойдуцца кіраўнікі прадпрыемстваў, добрыя людзі, якія адгукнуцца і дапамогуць бліжнім сваім, хлопчыкам і дзяўчынкам, з маленства пакрыўджаных лёсам; не пакінуць педагогаў адзін на адзін з нявырашанымі праблемамі. І няхай згіне міг бяды, а застанецца толькі шчаслівая вечнасць.

***А.Шэлепень, карэспандэнт «ВГ»***


Фота з архіва С. Кухта, г. Утрэхт (Галандыя)

## Стары альбом «Вольнага Глыбокага»

**Вуліца Замкавая** (цяпер Леніна) у Глыбокім -- сведка шматвекавой гісторыі горада. Тут кожны камень дыхае гісторыяй.

Гэты здымак зроблены ў 30-я гг. нашага стагоддзя. Як бачна, глыбачане ўжо мелі свае аўтамабілі. На далягля-дзе -- праваслаўная царква з купалам, які згарэў у апошнюю вайну. Двухпавярховы будынак справа -- дом па цяперашняй вул. Леніна, 5, помнік горадабудаўніцтва. Перад домам -- агароджа, якая засталася ад згарэўшай уніяцкай царквы. На гэтым месцы зараз рэстаран «Колас».

Энцыклапедыя цывілізаванага падману

## Асцярожна, кантрактацыя!

**Кантрактацыя, згодна тлумачальнага слоўніка, - гэта пісьмовая дамова на атрыманне, выкарыстанне каго або чаго-небудзь, напрыклад, ураджаю, прыплоду жывёлы, памяшкання...** Закантрактаваны -- не значыць прададзены. Гэта азначае, што два бакі дамаўляюцца, што ў будучым адзін нешта прадасць, а другі нешта набудзе. Каб заахвоціць гаспадароў-вытворцаў іншы раз дзяржава выдае грашовы крэдыт, пры ўмове, што пры атрыманні закантрактаванага сума крэдыту будзе адлічана. Як правіла, падобныя крэдыты беспрацэнтныя альбо з вельмі невялікім працэнтам, што павінна быць адлюстравана ў дамове.

Не маглі думаць вяскоўцы з Шаркоўшчынскага раёна, што і тут іх «надуе» дзяржава. Дзякуючы замацаванай гадамі традыцыі несвоечасова атрымоўваць зарплаты, вяскоўцы, каб выжыць ды атрымаць хоць якія «жывыя» грошы на рукі, з радасцю заключалі кантракты на здачу цялят. Пры заключэнні дамоў людзям адразу ж выдзяляўся крэдыт на суму за 50 кілаграмаў мяса (цэны на момант заключэння кантракта). Прыйшла восень і вяскоўцы павязлі здаваць цялят. Пры прыёме жывёлы (самае цікавае) адлічваюць не выдзелены грашовы крэдыт, а грошы за 50 кг. мяса ад вагі. Напрыклад, калі цяля заважыла 100 кг., то гаспадар атрымоўвае грошы толькі за 50. Але ж зімой нарыхтоўчая цана кілаграма мяса была 300 тысяч, а зараз 400. Нават на такім грубым прыкладзе падлічыць страты вяскоўцаў няцяжка -- кожны недалічыўся 5-6 тысяч. Бедны калгаснік зноў аказаўся ў «бэцэ». Вярнуць свае грошы вяскоўцы не змогуць, а вось папярэдзіць астатніх здольны: Асцярожна! Кантрактацыя!

*Сафія Табола*

## ЦЫТАТА АПОШНЯЙ ПАЛАСЫ

*Чым- чым , а горам падзяліцца можам, ёсць яно ў кожнага. Шчасцем неяк менш дзелімся, нават тады, калі ўрэ на стале і віно замежнае, і ежа не мужыцкая.*

## Восеньскі гістарычны каляндар

**1500г.** -- няўдалы паход маскоўскага войска на Смаленск.

**1648 г.**-- паўстанне казакаў на чале з Багданам Хмяльніцкім.

**4 лістапада 1661г.** -- войска Вялікага княства Літоўскага, якое ўзначальвалі Чарнецкі і Павел Сапега, ля мястэчка Кушлікі, што ў двух мілях на ўсход ад Дзісны, разбіла маскоўскае войска ваяводы Хаванскага.

**Лістапад 1795г.** -- апошні польскі кароль і апошні вялікі князь Літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі адрокся ад трона. Рэч Паспалітая, як дзяржава, перастала існаваць.

**Кастрычнік 1812 г.** -- фарміраванне 18-га уланскага палка, у склад якога ўваходзілі і рэкруты з Глыбокага. Полк ваяваў на баку Напалеона.

**12 кастрычніка 1920 г.** -- заходняя частка Беларусі ўвайшла ў склад Польшчы.

**17 верасня 1939 г.** -- заходняя частка Беларусі ўвайшла ў склад Расіі.



Жыццёвы выпадак

## Удзячны хворы

Дзед Мацвей, дай Бог яму здароўя, пражыў на гэтым свеце 70 гадоў і ні разу не сустракаўся з урачамі. Ды і наогул стары лічыў іх, слуг Гіпакрата, шарлатанамі і дармаедамі. Але, як людзі кажуць, не заракайся.

Схапіў старога раз жывот. Ды так скруціў, што дзед адчуваў сябе як вуж на гарачай патэльні. Бабулька ўжо і не ведала, як ратаваць Мацвея: і гарачы кампрэс зрабіла, і лёд прыкладвала, і травы-зёлкі розныя давала піць -- усё дарэмна. Прыйшлося дзеду імчацца ў райцэнтр у бальніцу.

Хірург уважліва выслухаў дзеда Мацвея, і тут пацiскаў, і там: «Так.Пакуль што я вам дам лекі, пап'яце да заўтра, а раніцай прывезяце на аналіз кал".

-- Дзякую, дзякую, мілы доктар!—адступаючы да дзвярэй, ветліва ківаў галавой Мацвей.

Ля машыны старога чакаў сусед, мясцовы гаварун і жартаўнік:

-- Ну што, як справы? Жыць хоць будзеш?

-- А хто ж яго ведае? Вось урач сказаў нейкі кал прывезці, а што гэта за такая немач, га, Валодзя? - трывожна пытаецца Мацвей, пазіраючы ў вочы.

-- Кал, суседзе, гэта.., -- і Валодзя папулярна растлумачыў лексічнае значэнне слова.

-- Дык а колькі яго браць?

-- Разумееш, дзед, урачы -- такія людзі, што ім чым болей -- тым лепей, -- далей даверліва тлумачыць сусед суседу.

Прыехаў дзед дадому, расказаў усё бабулі. Наклалі яны таго калу цэлы збанок, бабуля перавязала збан чыстай хусцінкай, думаючы, што ўрачы, напэўна, самі хворыя, толькі на галаву.

Раніцай заходзіць дзед у кабінет хірурга, урачыста нясе перад сабой збанок, ставіць апошні на акно.

-- Як справы, дапамаглі лекі?

-- Ой, доктар, не ведаю, як вам і дзякаваць, жывот прайшоў, нічога не баліць, я -- ваш даўжнік на ўсё жыццё!

-- Тады, дзядуля, шчаслівa, добрага табе здароўя! -- хутчэй выправадзіў доктар хворага, бо вельмі ж карцела паглядзець, што там у збанку. «Напэўна, мёд», -- задаволена мроіў урач. А тут, як на злосць, ускочыла медсястра і давай круціцца каля збанка.

Што ж ты зробіш? Трэба дзяліцца!

-- Вы там, Іванаўна, адлажыце дзедавых прысмакаў, колькі вам патрэбна, -- міласціва дазволіў хірург.

Прагная да дармавога пачастунку, Іванаўна хуценька падскочыла да збана, разгарнула, і... хуценька загарнула назад:

-- Ды не, Віктар Паўлавіч, хай лепей вам усё будзе!

*Алена ГЕРМАНОВІЧ.*
*в.Уборак*

З месца падзеі

# Поле памяці

У гісторыі развіцця кожнага народа ёсць свае векапомныя даты. Ёсць яны і ў беларусаў. Адна з іх звязана з падзеямі вайны 1512--1522 г.г. паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім княствам Літоўскім. Тое, што адбылося на Аршанскім полі 8 верасня 1514 года, зараз носіць назву Дня Беларускай вайсковай славы.



Перадумовай вышэйназванай падзеі стаў захоп рускімі войскамі Смаленска, які на той час з'яўляўся буйным стратэгічным і эканамічным цэнтрам ля заходніх межаў Масковіі. Захапіўшы яго, Масква адкрывала для сябе шлях у полацка-віцебскім і аршанска-барысаўскім напрамках.

80-тысячнае маскоўскае войска рушыла ў накірунку Оршы з мэтай знішчыць войскі Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Гэтай сіле супрацьстаяла крыху больш за 30 тысяч ваяроў, якіх узначальваў Канстанцін Астрожскі -- найвышэйшы гетман ВКЛ. На старонках Пскоўскага летапісу ёсць наступныя радкі: «...тут, у Дняпроўскай лукавіне, у пятніцу, на Раство Прасвятой Багародзіцы, у верасньскі дзень далёкага 1514 года была вайна вялікая...». Вырашальная бітва паміж рускімі і ліцвіна-польскімі войскамі адбылася паміж Оршай і Дуброўна на рацэ Крапіўне. Бой распачалі руския, у адказ ім К. Астрожскі вывеў конніцу. Высілкі абодвух бакоў суправаджаліся пераменным поспехам. Быў момант, калі маскавіты пачалі цясніць праціўніка на адным з флангаў. Ім здалося, што ліцвіны адступаюць, але гэта была тактычная хітрасць Астрожскага. Кінуўшыся ў пагоню, рускія трапілі ў пастку: страшэнны залп замаскіраванай артылерыі змяў маскоўскіх ратнікаў. У іх шэрагах пачалася паніка, войска кінулася ўцякаць. Страты сярод маскавітаў вымяраліся 40 тысячамі забітых. Перамога на Аршанскім полі дала магчымасць вызваліць Крычаў, Мсціслаўль, Дуброўна.

З таго часу прайшло 486 год. Але штогод, 8 верасня, над ракой Крапіўнай, «грымяць мячы булатныя». Сёлета праводзіўся дзевяты па ліку, традыцыйны фэст, прысвечаны ўгодкам Аршанскай бітвы. Свята пачалося з імшы па загінуўшых героях той бітвы, якую адпраўлялі святары з усёй Беларусі. Скончылася яна гімнам «Магутны Божа», які разам са святарамі спявалі ўсе прысутныя.

Далей было рыцарскае шэсце, прадстаўленне рыцарскіх клубаў, асноўнай мэтай якіх было тэатралізаванае ўзнаўленне падзей 1514 года. Гледачы пабачылі паядынкі, парныя баі рыцараў, бугурт -- групавы бой. Цікавай была інсцэніроўка сярэднявечнай традыцыі, згодна якой рыцары дамагаліся рук прыгожай дамы і аспрэчвалі гэта права ў паядынку. Добрая магчымасць выпадала сучасным рыцарам-гледачам, якія, узяўшы ў рукі меч, маглі паспытаць сваё шчасце ў гэтай справе. Былі добраахвотнікі і з боку ўдзельнікаў свята, і з боку гледачоў, але перамог рыцар, які першы заявіў аб сваім жаданні быць суджаным дзяўчыны і асіліў астатніх жадаючых.

Далей гледачы знаёміліся з творчасцю беларускага мастака Алеся Пушкіна, з асаладай слухалі спевы бардаў і падпiвалі ім. Цікавае, сапраўды запамінальнае, з элементамі патрыятычнага выхавання, атрымалася свята. Той, хто пабыў на ім, адчуў гонар за сваю Радзіму, за свой род, адчуў сваю чалавечую годнасць. Хочацца спадзявацца, што Аршанскае поле памяці стане тым доследным надзелам, на якім будуць выхоўвацца ў духу любові да Беларусі, да сваёй нацыянальнай гісторыі і культуры, маладыя парасткі беларускай свядомасці, веры і перакanання, што мы маем права пад сонцам, права на шчасце ў сваёй незалежнай краіне.

*А. Шзлепень,*
*кар. «ВГ».*





## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

З інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў Вы зможаце звярнуцца да прадстаўнікоў Беларускага Хельсінскага камітэта па правах чалавека ў Глыбокім: **2 37 54, 2 19 38;** у вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна **2 31 11;** у Паставах **2 27 58.** Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць і бясплатную юрыдычную кансультацыю і канкрэтную дапамогу.

## ПОШУК КЛЯНДАЙКА

### або што цікавіць Глыбоцкага чытача

Днямі мне ў рукі трапіла кніга, убачыўшы якую ўзгадаў цікавую акалічнасць, звязаную з ёй. Прыкладна год назад я завітаў у Глыбоцкую кнігарню і , аглядваючы паліцы, убачыў **«Энциклопедию кладоискателя»** *(изд. «Респекс», Санкт-Петербург, 1998г).* Захацелася пазнаёміцца з яе зместам. Падаўшы **кнігу, прадавец сказала: «Калі будзеце яе браць, то здыміце цэннік**, бо кніга апошняя». Аказалася, што **раскупілі яе за** некалькі **дзён. Вось якая літаратура цікавіць глыбачан**, ды ці толькі іх?! Яно і **зразумела:** пры нашых **заробках кожны** марыць хоць раз у **жыцці знайсці** свае **«Эльдарада»** ці «Кландайк» і адчуць сябе **чалавекам.**

**А. Ш.**

Набывайце газету «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!


Незалежная рэгіянальная газета «Вольнае Глыбокае»

Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Набор, дызайн: Васіль Саланінка;
Рэгіянальныя карэспандэнты:
С. Табола, Шаркоўшчынскі р-н, тэл.: 23111;
У. Шык (г. Паставы), тэл.: 22099
А. Шзлепень (г. Глыбокае): тэл.: 21274

Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1099, выдадзена дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Тэлефон: 2 37 54 (Галіна СУТУЛА)
Адрас для допісаў: вул. Валадарскага, 67, 211800, г. Глыбокае, BELARUS.

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб'ём -- 1 друкаваны аркуш.
Падпісана ў друк 28 кастрычніка 2000 г. у 14-40
Наклад 1000 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк, вул. Блахіна, 26 Замова 6449